# Гісторыя



УДК 94(470+571)«17/19»+316.342.4–058.13:34(470+571)(091)«17/19»

*К. С. ЦЕРАШКОВА*

## ТРАНСФАРМАЦЫЯ ПРАВАВОГА СТАТУСУ МЯШЧАН РАСІЙСКАЙ ІМПЕРЫІ (канец XVIII – пачатак XX ст.)

На основе изучения источников законодательства конца XVIII – начала XX в. анализируются особенности процесса трансформации правового статуса мещан Российской империи. Рассматриваются основные права и обязанности мещан, особое внимание при этом уделено изменению правового статуса мещан во второй половине XIX – начале XX в. Делается вывод о том, что, несмотря на стремление самодержавия сохранить сословную структуру общества, в том числе зависимость правового статуса от сословной принадлежности личности, в условиях модернизации общества происходило постепенное нивелирование сословного фактора, который на рубеже XIX−XX вв. утратил значение основной характеристики социального статуса. Принципиальное значение в данном процессе среди прочих мероприятий имело реформирование в сфере налогообложения, в основе которого к концу XIX в. выступал не сословный принцип, а имущественный ценз.

***Ключевые слова:*** законодательство; правовой статус; социальный статус; мещане; сословная структура; модернизация общества; социальная стратификация; основные права и обязанности; реформирование законодательства; реформирование налогообложения.

The analysis of the features of the process of transformation of the Russian Empire «meschanie» legal status is based on the study of the sources of legislation of the late 18 − early 20 century. The basic rights and obligations of the «meschanie» are considered, special attention being paid to the changes in the legal status of the «meschanie» which occurred in the late 19 − early 20 century. The conclusion is that in spite of the tsarist autocracy's desire to preserve estate structure of the society, including dependence of the legal status on the social status of an individual, in terms of the society modernization there was gradual leveling of the social status factor, which lost value of the main characteristics of the social status. Crucial in the process among other events was taxation reforming, the basis of which by the end of the 19 century served not the estates principle but property qualification.

***Key words:*** legislation; legal status; social status; «meschanie»; estate structure; society modernization; social stratification; basic rights and obligations; legislative reforming; taxation reforming.

У канцы XVIII – пачатку XIX ст. у Расійскай імперыі асноўнай характарыстыкай сацыяльнага статусу асобы з'яўлялася яго саслоўная прыналежнасць, якая рэгулявала кола правоў і абавязкаў, эканамічныя магчымасці, узаемаадносіны як у межах свайго сацыяльнага асяродка, так і па-за яго межамі, арыентавала на пэўныя каштоўнасці і стандарты паводзін. Нягледзячы на тое што кожны ўдзельнік сацыяльных узаемадзеянняў валодаў адначасова некалькімі статуснымі пазіцыямі, саслоўная прыналежнасць асобы ў Расійскай імперыі да пачатку XX ст. з'яўлялася галоўным сацыяльным статусам, а ўсе астатнія − дадатковымі, якія не маглі быць важнейшымі, чым саслоўная прыналежнасць асобы. У сваю чаргу, прававы статус выражаў юрыдычна замацаванае становішча асобы ў грамадстве, у аснову якога быў закладзены фактычны сацыяльны статус, пры гэтым права замацоўвала яго і ўводзіла ў заканадаўчыя рамкі. Агульны прававы статус не залежаў ад канкрэтных індывідуальных асаблівасцей асобы, у сувязі з чым у значнай ступені быў дэтэрмінаваны менавіта яе саслоўнай прыналежнасцю.

Пэўныя аспекты праблемы прававога статусу мяшчан знайшлі адлюстраванне ў даследаваннях перыяду Расійскай імперыі ў кантэксце вывучэння гісторыі гарадскога самакіравання, урадавай палітыкі ў адносінах да гарадскога насельніцтва, гісторыі саслоўяў у працах такіх гісторыкаў і правазнаўцаў, як В. В. Ключэўскі[1], П. І. Чыслоў[2], І. І. Дзіцяцін[3], Л. В. Плашынскі[4], П. А. Мулаў[5], А. А. Кізеветэр[6], А. Д. Пазухін[7], М. М. Дружынін[8], Я. Абрамаў[9] і інш. Разам з тым станаўленне і трансфармацыя прававога статусу мяшчан Расійскай імперыі ў канцы XVIII − пачатку XX ст. патрабуе асобнага і комплекснага разгляду.

Асноўнымі гістарычнымі крыніцамі пры даследаванні прававога статусу мяшчан у акрэслены перыяд выступаюць уласна заканадаўчыя крыніцы канца XVIII − пачатку XX ст., якія прадстаўляюць сабой нарматыўныя дакументы, што былі санкцыянаваны расійскім урадам і мелі вышэйшую юрыдычную сілу ў межах Расійскай імперыі. Дадзеная катэгорыя крыніц дазваляе прасачыць працэс фарміравання мяшчан як асобнай групы ў межах саслоўя гарадскіх абывацеляў і трансфармацыю яе

прававога статусу, урадавую палітыку ў адносінах да гэтай катэгорыі насельніцтва. Сярод публікацый дакументаў заканадаўства асаблівае месца займаюць «Полное собрание законов Российской империи» і «Свод законов Российской империи».

Пакідаючы па-за межамі дадзенага артыкула пытанне выпрацоўкі тэрміналогіі і перадгісторыю генезісу адзінага прававога статусу мяшчан, адзначым, што ўвядзенне ва ўжытак паняцця «мяшчане» ў Маскоўскай дзяржаве ў XVII ст. супала з пачаткам працэсу прававога афармлення гандлёва-прамысловых колаў гарадскога насельніцтва ў асобную сацыяльную катэгорыю. Далейшай выпрацоўцы прынцыпаў дыферэнцыяцыі гарадскога насельніцтва і размежаванню самастойных адзінак у яго структуры садзейнічала кадыфікацыя права ў Расійскай імперыі пры Пятру I і Кацярыне II. Паралельна з фарміраваннем асобных суб’ектаў сацыяльнай структуры адбываўся працэс удакладнення адпаведнай тэрміналогіі. Вызначэнне паняцця «мяшчане», выпрацаванае ў канцы XVIII ст., набыло пэўную адназначнасць у якасці тэрміналагічнай адзінкі ў заканадаўстве Расійскай імперыі з 1832 г. з выхадам IX тома «Свода законов Российской империи» («О состояниях») і захоўвала дадзенае канкрэтнае значэнне ў прававой сферы да першай чвэрці XX ст.

У адпаведнасці з заканадаўствам Расійскай імперыі ў акрэслены перыяд мяшчане ўяўлялі сабой складаючую частку саслоўя гарадскіх абывацеляў, да якой магчыма прымяненне такой катэгорыі, як саслоўная група ці саслоўны разрад[10]. У адрозненне ад іншых катэгорый гарадскіх абывацеляў, такіх як купецтва і цэхавыя, мяшчане з’яўляліся саслоўнай групай у больш вузкім сэнсе, прыналежнасць да якой перадавалася па спадчыне і не была абумоўлена выкананнем пэўных умоў[11]. Доказам прыналежнасці да саслоўя гарадскіх абывацеляў у цэлым заставаўся запіс у гарадавой кнізе, пасведчанне аб занясенні сям’і ў гарадавую абывацельскую кнігу, выпіска з гарадавой абывацельскай кнігі і шэраг іншых дакументаў. У далейшым была распрацавана сістэма дакументацыі прыналежнасці да асобнай групы мяшчан у межах саслоўя гарадскіх абывацеляў (спісы мяшчанскай управы і ўпраўныя пасведчанні)[12].

У заканадаўстве Расійскай імперыі канца XVIII – пачатку XX ст. былі вызначаны асноўныя шляхі і крыніцы папаўнення саслоўнай групы мяшчан. Пры гэтым на працягу ўсяго XIX ст. назіралася тэндэнцыя да больш дакладнага ўстанаўлення і пашырэння кола асоб, якія мелі магчымасць ці былі абавязаны ўвайсці ў склад дадзенай катэгорыі насельніцтва. Асноўныя шляхі набыцця і страты мяшчанскага статусу, а таксама крыніцы папаўнення мяшчанскай саслоўнай групы былі абумоўлены і дэталёва рэгуляваліся заканадаўствам Расійскай імперыі. Перапыненне мяшчанскага статусу адбывалася ў выпадку пераходу ў іншую саслоўную групу або саслоўе ці прымусова праз прысуд да пакарання, звязаны з пазбаўленнем усіх саслоўных правоў[13].

Для другой паловы XVIII – першай чвэрці XX ст. асноўным юрыдычна абумоўленым каналам узнікнення мяшчанскага статусу з’яўлялася яго набыццё пры ўмовах валодання нерухомай маёмасцю, дзейнасці ў сферы рамяства ці гандлю, выканання падатковых абавязкаў, грамадскай службы, пры гэтым сам статус набываў характар спадчыннага[14]. З выхадам IX тома «Свода законов Российской империи» («О состояниях») у 30-я гг. XIX ст. прадугледжваўся пераход у мяшчанскі статус праз такія сацыяльныя каналы, як нараджэнне, усынаўленне, шлюб ці яго набыццё[15]. Да асноўных крыніц папаўнення саслоўнай групы мяшчан у адпаведнасці з заканадаўствам адносіліся сельскія абывацелі ўсіх найменняў, дзеці асабістых дваран, якія не мелі афіцэрскіх чыноў, іншародцы, а таксама асобы, што мелі права ці абавязак выбіраць род жыцця, да якіх адносіліся дастаткова шырокія катэгорыі насельніцтва[16]. Адпаведныя крыніцы папаўнення ў значнай ступені абумовілі неаднародны сацыяльны склад саслоўнай групы з існаваннем у яе межах устойлівых маргінальных груповак, якія адносіліся да мяшчан «de jure», але «de facto» не засвойвалі каштоўнасці і стандарты паводзін гэтай саслоўнай групы.

Сістэма сацыяльнага кантролю ў асяродку дадзенай катэгорыі насельніцтва рэгулявалася шэрагам заканадаўчых актаў, выдадзеных у 30-я гг. XIX ст., у адпаведнасці з якімі мяшчанства складалася з мяшчанскага грамадства, удзельнікі якога былі звязаны паміж сабой узаемнай адказнасцю за выплату падаткаў і выкананне натуральных павіннасцей. Нягледзячы на тое што па заканадаўству прадугледжвалася прыпіска некаторых катэгорый насельніцтва ў склад мяшчан без адпаведных санкцый з боку грамадства, дадзеныя катэгорыі адносіліся да мяшчанскага грамадства толькі фармальна[17]. На працягу разглядаемага перыяду грамадства з’яўлялася свайго роду агентам прававой сацыялізацыі і важным механізмам рэгулявання жыццядзейнасці саслоўнай групы, шляхам залічэння ў склад якога мяшчане атрымалі магчымасць карыстацца ўсім комплексам правоў, нададзеных гэтай катэгорыі насельніцтва.

Трансфармацыя прававога статусу мяшчан у канцы XVIII – пачатку XX ст., закранулушая правамоцтвы і абавязкі дадзенай катэгорыі насельніцтва, вызначаныя як прыватным, так і публічным правам, у значнай ступені адлюстроўвала агульныя тэндэнцыі развіцця расійскага грамадства. Тым не менш пераўтварэнне прававога статусу мяшчан, якое мела даволі супярэчлівы і неадназначны характар, у розных галінах матэрыяльнага і працэсуальнага права адзначалася сваімі асаблівасцямі.

У сувязі з тым што правы і абавязкі мяшчан, вызначаныя іх родам дзейнасці, па сутнасці, абумоўлівалі іх прыналежнасць да адпаведнай сацыяльнай катэгорыі, асноўная ўвага з боку дзяржавы ў канцы XVIII – пачатку XIX ст. надавалася прававому рэгуляванню такіх традыцыйных заняткаў мяшчан, як гандлёва-прамысловая дзейнасць. Заканадаўчымі актамі канца XVIII ст. пры размежаванні асобных суб’ектаў сацыяльнай структуры грамадства Расійскай імперыі было пацверджана і замацавана выключнае права мяшчан на гандаль і рамёствы[18].

У першай палове XIX ст. выявілася тэндэнцыя да дыферэнцыяцыі ў межах саслоўнай групы па сферах гаспадарчай дзейнасці, што выклікала неабходнасць выпрацоўкі адпаведнай нарматыўна-прававой базы. Згодна з маніфестам «Об устройстве гильдий и о торговле прочих состояний» ад 14 лістапада 1824 г., прынятым у межах курсу палітыкі міністра фінансаў Я. Ф. Канкрына, прадугледжвалася стварэнне новых разрадаў: гандлюючых мяшчан і гандлюючых рамеснікаў. Пры гэтым гандлюючыя мяшчане выводзіліся з саслоўнай групы і надзяляліся больш шырокімі гандлёвымі правамі, у сваю чаргу, астатнія мяшчане залічваліся да катэгорыі пасадскіх[19]. Разам з тым гандлёва-прамысловае заканадаўства з нерацыянальнай сістэмай падаткаабкладання замаруджвала прадпрымальніцкую актыўнасць і не адпавядала эканамічным магчымасцям мяшчан, у сувязі з чым палажэнні маніфеста 1824 г. адносна дробнага гандлю і промыслаў былі адменены. Для другой паловы XIX ст. характэрны пэўныя змены прававога становішча мяшчан, звязаныя з рэфармаваннем дзяржаўнай сістэмы і эканамічнай палітыкай міністра фінансаў М. Х. Рэйтэрна. Законамі ад 1 студзеня 1863 г. і 9 лютага 1865 г. адбылося рэфармаванне падаткаабкладання прамысловасці і гандлю, дэкларававўшае поўную свабоду прадпрымальніцкай дзейнасці пры ўвядзенні замест асобных пасведчанняў на вядзенне гандлёва-прамысловай дзейнасці для мяшчан агульных пасведчанняў некалькіх катэгорый[20].

Прававы статус мяшчан акрамя выбару сферы гаспадарчых заняткаў у значнай меры вызначаўся шэрагам іншых немаёмасных правоў, сярод якіх неабходна адзначыць права выбару месца жыхарства і міграцыі. Па заканадаўстве канца XVIII − пачатку XX ст. права міграцыі са сталага месца жыхарства насельніцтва Расійскай імперыі было абмежавана неабходнасцю атрымання адпаведнага віду на перамяшчэнне ці пашпарта. Пры гэтым сталым месцам жыхарства мяшчан лічыліся гарады, дзе яны былі запісаны ў абывацельскія кнігі, за выключэннем мяшчан Заходніх губерняў, якія пражывалі ў прыватнаўласніцкіх мястэчках ці землях цэлымі грамадствамі, асобнымі ад гарадскіх[21]. Пры дадзеных абставінах магчымасці гарызантальнай (тэрытарыяльнай) мабільнасці мяшчан былі ў значнай меры абмежаваны існаваўшай пашпартнай сістэмай і неабходнасцю атрымання дазволу на выхад з мяшчанскага грамадства.

Правы і абавязкі мяшчан у маёмаснай сферы ў значнай ступені вызначаліся адносінамі да нерухомай маёмасці і зямельных уладанняў. У акрэслены перыяд дадзеная саслоўная група карысталася правамі ўладання і набыцця нерухомай маёмасці ў гарадах і мястэчках, а таксама ненаселеных земляў[22]. Так, мяшчанскае землеўладанне, па сутнасці, з'яўлялася адной з форм непрывілеяванага асабістага землеўладання, важную ролю ў фарміраванні якога адыграў загад Аляксандра I «О предоставлении купечеству, мещанству и казенным поселянам приобретать покупкою земли» ад 12 снежня 1801 г.[23] Неабходна падкрэсліць той факт, што абмежаванні ў распараджэнні нерухомай маёмасцю ў гарадах і мястэчках былі дэтэрмінаваны казённым правам ўласнасці на зямлі, на якіх былі ўзведзены жылыя і гаспадарчыя пабудовы мяшчан. Пры гэтым на гарадскія землі не распаўсюджваўся прынцып даўніны, а самі зямельныя надзелы не маглі пераходзіць у грамадскую ці прыватную ўласнасць[24]. Права карыстання гарадскімі землямі належала гарадскому грамадству і ажыццяўлялася гарадскімі ўладамі, якія ў сваю чаргу здавалі зямельныя надзелы ў арэнднае карыстанне на аснове правілаў, вызначаных «Уставом о городском хозяйстве»[25].

У акрэслены перыяд мяшчане з'яўляліся адной з асноўных і масавых падатковых катэгорый насельніцва, саступаючы ў дадзеных адносінах толькі сялянам. Прылічэнне ў склад саслоўнай групы мяшчан нават у пачатку XX ст. ажыццяўлялася казёнными палатамі[26]. На працягу названага перыяду мяшчане выконвалі як грашовыя, так і натуральныя павіннасці, функцыю раскладкі і адказнасць за выплату якіх, як ужо было адзначана вышэй, несла мяшчанскае грамадства. У абавязак мяшчан да 60-х гг. XIX ст. уваходзіла выплата як падушнага падатку, так і падаткаў на ўладкаванне шляхоў зносін, звыш таго, мяшчане выплачвалі розныя зборы на грамадскія і казённыя патрэбы[27]. У сувязі з падатковай сістэмай прадугледжвалася пашпартная сістэма, што перашкаджала падатковаму насельніцтву ўхіляцца ад выплаты падушнага падатку і забяспечвала стройнасць падаткаабкладання.

Пры ўвядзенні ў другой палове XIX ст. падаткаў з нерухомай маёмасці, на права гандлю і промыслаў, падаткаў з грашовых капіталаў, дзяржаўнага кватэрнага падатку адбылася прынцыповая рэарганізацыя падатковай сістэмы Расійскай імперыі, што аказала значны ўплыў на трансфармацыю прававога статусу мяшчан. Так, падатак з нерухомай маёмасці ў гарадах, пасадах і мястэчках, уведзены ў 1863 г. замест падушнага, страціў характар спецыяльнага мяшчанскага падатку[28]. Ён распаўсюджваўся на нерухомую маёмасць, што знаходзілася ў прыватнай уласнасці, а таксама на нерухомую маёмасць, якая належала земствам, гарадам, духоўным ведамствам і была здадзена ў арэнднае карыстанне. Пры гэтым сума падатку ў межах населеных пунктаў размяркоўвалася непасрэдна паміж уладальнікамі нерухомай маёмасці[29].

У другой палове XIX ст. лічылася, што рэфармаванне падатковага заканадаўства пачатку 60-х гг. XIX ст. «освободило русскую торговлю и промышленность от лежавших на ней при крепостном праве слишком резких сословных стеснений и ограничений, подчинивши сословные права торговым и представившим каждому без различия звания и состояния, пола, возраста и сословия свободно заниматься, по собственному выбору, торговою или промышленною деятельностью во всех ее видах», разам з тым адзначалася, што заканадаўства «еще окончательно не отказалось от сословного начала». У сувязі з рэформай гандлёва-прамысловага падаткаабкладання ў канцы XIX ст. Міністэрства фінансаў афіцыйна прызнавала, што законы 1863 і 1865 гг. «носили при самом своем издании еще ясные следы прежнего

сословного строя с его гильдейской податью и сборами за мещанские промыслы»[30]. У адпаведнасці з законам 1898 г. аб прамысловых падатках, усталяваўшых кампраміс паміж саслоўным і бессаслоўным прынцыпамі падаткаабкладання, памеры выплаты залежалі не ад саслоўнай прыналежнасці ўладальніка, а ад непасрэднага прыбытку прадпрыемства[31].

У адрозненне ад іншага разраду саслоўя гарадскіх абывацеляў − купецтва, вызваленага пасля 1775 г. ад рэкруцкай павіннасці, а затым і рэкруцкіх грашовых выплат, мяшчане працягвалі выконваць дадзеную павіннасць да канца яе існавання[32]. Прыняцце 28 чэрвеня 1831 г. «Устава о рекруцкой повинности» паставіла пад кантроль губернскай адміністрацыі вызначэнне і размеркаванне рэкруцкіх чэргаў у мяшчанскіх грамадствах, што ў цэлым не паўплывала на прававое становішча мяшчан[33]. Вялікае значэнне ў дадзеных адносінах мела правядзенне вайсковых рэформ 60–70 гг. XIX ст., у прыватнасці выданне 1 студзеня 1874 г. маніфеста «О введении всеобщей воинской повинности», разам з якім быў прыняты «Устав о воинской повинности», дзе дэкларавалася, што «защита престола и отечества есть священная обязанность каждого русского подданного. Мужское население без различия состояний подлежит воинской повинности»[34]. Пераход да ўвядзення ўсеагульнай воінскай павіннасці, скарачэнне тэрмінаў службы, а таксама замена такой натуральнай павіннасці, як ваенны пастой, грашовымі выплатамі аказалі ўплыў на прававы статус мяшчан, адлюстраваўшы тэндэнцыі мадэрнізацыі расійскага грамадства[35].

Неабходна падкрэсліць, што на працягу вывучаемага перыяду мяшчанам як падатковай катэгорыі насельніцтва па заканадаўству Расійскай імперыі быў закрыты доступ да дзяржаўнай службы (за выключэннем аддаленых мясцовасцей, Заходніх губерняў і Царства Польскага). Пры гэтым каналы сацыяльнай мабільнасці, што здымалі дадзеныя абмежаванні да пачатку XX ст., заставаліся нязменнымі: права на класны чын, заканчэнне адпаведных навучальных устаноў, вучоная ці акадэмічная ступень[36]. У сувязі з прыняццем закона «Об отмене некоторых ограничений в правах сельских обывателей и других лиц бывших податных состояний» у 1906 г. скасоўваліся абмежаванні па саслоўнаму паходжанню ў адносінах доступу да асобных дзяржаўных пасад[37]. Разам з тым, нягледзячы на агульныя тэндэнцыі нівеліравання саслоўнага фактару ў канцы XIX − пачатку XX ст., магчымасці рэалізацыі асобы ў дачыненні да дзяржаўнай службы па-ранейшаму вызначаліся яе саслоўнай прыналежнасцю[38].

Важнай складаючай часткай прававога статусу мяшчан Расійскай імперыі з'яўлялася магчымасць удзелу ў мяшчанскім самакіраванні і гарадскім кіраванні. Прыняцце «Городового положения» 16 чэрвеня 1870 г., дэклараваўшага бессаслоўнасць гарадской думы і заклаўшага ў аснову выбарчай сістэмы прынцып выплаты падаткаў, выклікала неабходнасць рэарганізацыі як органаў гарадскога кіравання, так і мяшчанскага самакіравання[39]. У выніку рэфармавання сістэмы гарадскога кіравання мяшчане атрымалі магчымасць карыстання актыўным і пасіўным выбарчымі правамі на ўзроўні самакіравання ў межах саслоўнай групы пры выбарах у мяшчанскія ўправы, а таксама ў агульным гарадскім самакіраванні пры выбарах у гарадскія думы. Разам з тым рэалізацыя выбарчых правоў забяспечвалася вызначаным заканадаўствам маёмасным цэнзам, ад якога залежала падаткаабкладанне, і сацыяльным статусам мешчаніна. Прынятае ва ўмовах узмацнення ахоўнага курсу і контррэформ новае «Городовое положение» 11 чэрвеня 1892 г., якое ў цэлым захавала прынцыпы гарадскога самакіравання, але павысіла маёмасны цэнз, ускладніла магчымасці практычнай рэалізацыі выбарчых правоў для мяшчан[40].

Такім чынам, мяшчане як непрывілеяваная саслоўная група ў межах саслоўя гарадскіх абывацеляў у канцы XVIII – пачатку XX ст. валодалі значнымі правамі, да якіх адносіліся права вядзення гандлёва-прамысловай дзейнасці, уладання нерухомай маёмасцю і незаселенымі землямі, саслоўнага самакіравання, права аховы асобы і маёмасці законам. Мяшчане былі адной з самых масавых падатковых катэгорый насельніцтва, а абавязак выплачваць вызначаныя падаткі з'яўляўся адной з асноўных характарыстык прававога статусу мяшчан і выступаў у якасці своеасаблівага паказчыка прыналежнасці да гэтай саслоўнай групы. У 60−70-х гг. XIX ст. ва ўмовах адноснай лібералізацыі адбыліся значныя змены ў прававым становішчы мяшчан, звязаныя перш за ўсё з рэфармаваннем прынцыпу падаткаабкладання. Прыняты ў 1898 г. закон аб прамысловых падатках разам з рэформамі 60−70-х гг. XIX ст., змяніўшымі прынцыпы падаткаабкладання і ўсталяваўшымі бессаслоўнасць гарадскога самакіравання, садзейнічаў ліквідацыі асаблівых выключна для мяшчан характарыстык прававога статусу.

Нягледзячы на імкненне з боку дзяржавы захаваць цэласнаць і ўпарадкаванасць саслоўнай структуры, яе фінансавых, арганізацыйных і іншых аспектаў, што адыгрывалі ключавую ролю ў дзяржаўным уладкаванні і кіраванні, у парэформенны перыяд адбываецца паступовае нівеліраванне фактару саслоўнай прыналежнасці. Саслоўная прыналежнасць асобы як галоўны сацыяльны статус, характэрны для традыцыйнага (даіндустрыяльнага) грамадства, ва ўмовах мадэрнізацыйных працэсаў і пераходу да грамадства іншага тыпу паступова страчвала значэнне асноўнага элемента сацыяльнай арганізацыі грамадства, што асабліва заўважна на рубяжы XIX−XX стст. Прынцыповае значэнне ў дадзеных працэсах мела рэфармаванне сферы падаткаабкладання, у аснове якога ў канцы XIX ст. выступаў не саслоўны прынцып, а маёмасны цэнз.

БІБЛІЯГРАФІЧНЫ СПІС


[1] Гл.: Ключевский В. О. История сословий в России: курс, читанный в Московском университете в 1886 г. М., 1914.

[2] Гл.: Числов П. И. История русского права от издания Соборного уложения Алексея Михайловича до издания Свода законов по лекциям приват-доцента Московского университета. М., 1896.

[3] Гл.: Дитятин И. И. Устройство и управление городов России: в 2 т. Т. 1. Введение. Города России в XVIII ст. СПб., 1875; Ён жа. Устройство и управление городов России: в 2 т. Т. 2. Городское самоуправление в настоящем столетии. Ярославль, 1877; Ён жа. Статьи по истории русского права. СПб., 1895.

[4] Гл.: Плошинский Л. О. Городское или среднее состояние русского народа, в его историческом развитии, от начала Руси до новейших времен. СПб., 1852.

[5] Гл.: Муллов П. А. Историческое обозрение правительственных мер по устройству городского общественного управления. СПб., 1864.

[6] Гл.: Кизеветтер А. А. Посадская община России XVIII ст. М., 1903; Ён жа. Девятнадцатый век в истории России. Ростов н/Д., 1905.

[7] Гл.: Пазухин А. Д. Современное состояние России и сословный вопрос. М., 1886.

[8] Гл.: Дружинин Н. Л. Мещане, их положение и нужды. М., 1906.

[9] Гл.: Абрамов Я. Забытое сословие // Наблюдатель. 1885. № 1. С. 269−303; Ён жа. Мещане и город // Отечественные записки. 1883. № 3. С.1−21.

[10] Гл.: Свод законов о состоянии людей в государстве. СПб., 1833. Ст. 241.

[11] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 488.

[12] Гл.: Полное собрание законов Российской империи (далее – ПСЗ РИ). Собр. 1: в 45 т. СПб.,1830. Т. 22. № 16188. Ст. 78; Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 494, 495; Свод законов о состоянии людей в государстве. СПб., 1833. Ст. 287.

[13] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 465–467; Законы о состояниях / сост. Я. А. Канторович. СПб., 1911. Ст. 571.

[14] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 1: в 45 т. СПб.,1830. Т. 22. № 16188. Ст. 10, 81.

[15] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 432–434, 488, 489, 491, 492.

[16] Там жа. СПб., 1899. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 561–562.

[17] Там жа. Ст. 563–566.

[18] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 1: в 45 т. СПб.,1830. Т. 20. № 14275. Ст. 47; ПСЗ РИ. Собр. 1: в 45 т. СПб.,1830. Т. 22. № 16187. Ст. 10, 80−91.

[19] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 1: в 45 т. СПб.,1830. Т. 39. № 30115.

[20] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 2: в 55 т. СПб.,1866. Т. 38, отд. 2. № 39118; ПСЗ РИ. Собр. 2: в 55 т. СПб.,1866. Т. 40, отд. 1. № 41779.

[21] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1890. Т. 15: Устав о паспортах и беглых. Ст. 1, 4.

[22] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 540.

[23] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 1: в 45 т. СПб.,1830. Т. 26. № 20075.

[24] Гл.: Свод законов Российской империи. Пг., 1914. Т. 10. Ч. 1: Свод законов гражданских. Ст. 515, 560, 1387.

[25] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 523.

[26] Гл.: Законы о состояниях / сост. Я. А. Канторович. СПб., 1911. Ст. 567.

[27] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 5: Уставы о податях, о пошлинах и о сборах с питей, с свеклосахарного производства и с табаку: Устав о податях. Ст. 241, 244.

[28] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 2: в 55 т. СПб.,1866. Т. 38, отд. 2. № 39119.

[29] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1893. Т. 5: Уставы о прямых налогах, о пошлинах и об акцизных сборах. Ст. 32–33, 35.

[30] Шепелев Л. Е. Царизм и буржуазия во второй половине XIX века. Л., 1981. С. 96−97.

[31] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 3: в 33 т. СПб., 1901. Т. 18, отд. 1. № 15601.

[32] Гл.: Свод законов о состоянии людей в государстве. СПб., 1833. Ст. 336; Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 9: Законы о состояниях. Ст. 539.

[33] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 2: в 55 т. СПб., 1832. Т. 6, отд. 1. № 4677.

[34] ПСЗ РИ. Собр. 2: в 55 т. СПб., 1876. Т. 49, отд. 1. № 52982, 52983; Свод законов Российской империи. СПб., 1897. Т. 4.: Устав о воинской повинности. Ст. 1.

[35] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 2: в 55 т. СПб.,1876. Т. 49, отд. 1. № 53623.

[36] Гл.: Свод законов Российской империи. СПб., 1857. Т. 3: Уставы о службе гражданской. Ст. 4−5; Свод уставов о службе гражданской. Т. 1. Устав о службе по определению от правительства / сост. А. Скоров и А. Полянский. М., 1895. Ст. 4−6.

[37] Гл.: ПСЗ РИ. Собр. 3: в 33 т. СПб., 1909. Т. 26, отд. 1. № 28392.

[38] Гл.: Свод законов Российской империи: в 5 кн. / сост. Н. П. Балканов, С. С. Войт, В. Э. Герценберг. Кн. 1. Свод уставов о службе гражданской. Т. 3. Устав о службе по определению от правительства. Пг., 1912. Ст. 6−7.

[39] Гл.: Городовое положение со всеми относящимися к нему узаконениями, судебными и правительственными разъяснениями / сост. пом. присяж. пов. М. И. Мыш. 6-е изд., испр. и доп. СПб., 1885. Ст. 16–17. Доп. узакон. № 46. Ст. 667–675.

[40] Гл.: Городовое положение 11 июня 1892 года с относящимися к нему узаконениями, судебными и правительственными разъяснениями / сост. присяж. пов. М. И. Мыш. 2-е изд., испр. и доп. СПб., 1894. Ст. 24.

Паступіў у рэдакцыю 22.02.13.

***Ксенія Сяргееўна Церашкова*** – аспірантка аддзела гісторыі беларускай дзяржаўнасці Інстытута гісторыі НАН Беларусі. Навуковы кіраўнік – акадэмік НАН Беларусі, доктар гістарычных навук, прафесар Інстытута гісторыі НАН Беларусі М. П. Касцюк.

*УДК 94(=161.3)«18»+908(476)«18»*

*Ю. В. ФУНК*

# А. П. САПУНОВ: ИСТОРИКО-ЭТНОГРАФИЧЕСКИЕ ИССЛЕДОВАНИЯ ТЕРРИТОРИИ БЕЛОРУССКИХ ЗЕМЕЛЬ В ПРОИЗВЕДЕНИЯХ КОНЦА XIX в.

Посвящена историко-этнографическим изысканиям известного историка и исследователя Витебского края Алексея Парфеновича Сапунова (1851–1924). Уроженец п. Усвяты, что недалеко от Велижа, впоследствии стал почетным гражданином этого города. Окончив историко-филологический факультет Санкт-Петербургского университета, А. П. Сапунов всю свою жизнь посвятил изучению истории и культуры народов, населявших Витебскую губернию вдоль Западной Двины. Рассматриваются вопросы этнографии и краеведения Беларуси и России по оценкам А. П. Сапунова с позиции XIX в. на примерах г. Полоцка как исторического центра. А. П. Сапунов являлся представителем западнорусского направления.

***Ключевые слова:*** краеведение; этнография; вероисповедание; белорусские земли; история; культура; политические отношения; определение народностей.